*Да заканчэння падпіскі на «Народную Волю» на першую палову 2012 года — 5 дзён. Вас чакаюць на пошце і ў спецыялізаваных пунктах «Белсаюздруку». Не спазніцеся!*

**№№195–196 (3532–3533)**

20 снежня 2011 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі— чакаем!*

ПОЗИЦИЯ



*Ирина ХАЛИП — специально для «Народной Воли»*

# Белорусский централ

Я очень благодарна "Вясне" и Алесю Беляцкому, но в одном, дорогие правозащитники, я не могу с вами согласиться при всем уважении: вы утверждаете, что в белорусских тюрьмах остаются четверо осужденных декабристов и анархисты плюс сам Беляцкий. Это неверно.

Потому что 19 декабря в тюрьме оказалась вся Беларусь — и зеки, и тюремщики, и те, кто до сих пор по наивности думает, будто он на свободе. Наша страна теперь — одна большая тюрьма. Каждый из нас — в тюрьме, и каждый из нас — сам по себе тюрьма.

Тюрьма отбирает многое, но кое-что дает взамен. У моего мужа Андрея Санникова она отняла здоровье и радость семейного общения, но дала невероятную стойкость и моральную победу над режимом. Уж коль скоро режим не может успокоиться, даже посадив Андрея в тюрьму, и все пытается его сломать, действуя скорее по инерции, ибо при всем убожестве своем уже осознал, что этот враг ему не по зубам, — это победа моего мужа. Андрей — рекордсмен, за год он прошел четыре тюрьмы и три колонии. Не всякий бывалый зек может похвастаться таким опытом. Мужа никак не оставляют в покое и, стоит ему привыкнуть к условиям новой зоны, снова отправляют на этап. На этапах и в карантинах он проводит больше времени, чем собственно в колониях. А это значит — ни звонков домой, ни передач, ни свиданий. Теперь уже — и адвокатов не допускают. Просто так. Если раньше они хотя бы отыскивали в архивах должностные инструкции НКВД БССР от 1937 года и пытались ссылаться на них, то теперь даже не пытаются и не ищут "отмазки". Некоторые просто и открыто говорят: "Да, мы преступники. Мы совершаем преступления и получаем за них новые "звездочки" и премии от начальства. У нас есть хлеб с маслом и нет совести. Нам, может, и хотелось бы узнать, что за зверь такой — совесть, но нам начальство не велит даже думать об этом. Нам дан приказ быть преступниками, а солдат приказов не обсуждает. И если мы будем соблюдать законы, то сядем в соседнюю камеру". Дураки, они не понимают, что уже давно там сидят.

Лично мне тюрьма дала бесценный опыт и новых друзей, но отняла несколько лет жизни моих родителей, которым довелось пережить, пожалуй, больше, чем кому бы то ни было, и едва не отняла сына. Тюрьма иногда имеет облик сиротского приюта, а конвоиры являются за тобой в образе теток из органов опеки.

У моего сына тюрьма отняла детство, зато дала осознание того, что сказка про дядю Степу — сплошное вранье. Дед Мороз, возможно, и существует, а дядя Степа — выдумка, причем на редкость глупая выдумка. Мой сын это знает точно: ко мне милиция приходит по ночам. Милиционеры, похоже, не испытывают никакого морального дискомфорта от того, что четырехлетний Даня, просыпаясь от трели домофона, уже знает: в дом ломится милиция, и нужно прятаться. Он вскакивает и бежит в темную комнату, где замирает за дверью. А ночные визитеры иногда еще и пытаются балагурить. Им не стыдно, ведь они в тюрьме, а там нужно выживать любыми способами. Были бы на воле — понятное дело, не шлялись бы по ночам.

Наташе Радиной тюрьма дала мудрость, но отняла родину. Сейчас мы иногда вечерами включаем "Скайп" и даже не всегда разговариваем: каждая пишет свое, и лишь время от времени обмениваемся репликами — будто мы сидим где-то в одной редакции за соседними столами.

Диме Дашкевичу тюрьма дала абсолютную любовь Насти Полаженко, но отняла маму. У жены Николая Статкевича Марины Адамович, не сидящей деюре, но зечки де-факто, тюрьма тоже отняла маму, зато вернула веру. Нам всем тюрьма вернула взаимопонимание и единство, но отняла близких и целые годы жизни.

А что же те, кто искренне верил, будто находится на свободе, и сослепу не видел зарешеченных окон и вертухаев на улицах? О, с ними тюрьма обошлась еще более жестоко. У них она отняла деньги, благополучие и уверенность в завтрашнем дне, зато дала возможность включить наконец мозги и начать мыслить, анализировать, понимать. А это уже почти щедрость — дать возможность узнику увидеть наконец решетку и наручники и понять, что цена на колбасу и права человека имеют даже не косвенную, а прямую связь.

Тем же, кто до сих пор убежден, что находится на свободе, а не в тюрьме, уже ничего и не нужно давать или отнимать — они родились и прожили жизнь за решеткой и понятия не имеют о том, что можно жить и на свободе. На что им свобода, если есть баланда?

Тем же, кто сидит в тюрьме, имея при этом все атрибуты вертухая — форму с погонами или цивильный костюм, табельное оружие или печать, которая придаст силу любой бумажке, приходится тяжелее всего. Потому что они понимают: их окна пока еще будто бы не зарешечены, но это иллюзия. Они пока еще ездят в вагонах СВ, но может так случиться, что скоро перейдут в "столыпины". Они пока ходят будто бы без конвоя, но постоянно оглядываются в ожидании окрика. Они знают, что он последует. И если моему мужу и нам всем один путь из тюрьмы — только на свободу, то им, не исключено, еще предстоит пройти все то, что прошли мы. Так что это не у меня — это у них отсрочка исполнения приговора. И отсчет пошел с 19 декабря прошлого года.

Тюрьма — шлюха. Она дает только то, что хочет, а отнимает все, что может. И все-таки она не отняла у нас главного — того инстинкта, который одних ведет на баррикады и на нары, другим не позволяет врать, третьих вынуждает срываться с насиженного места. Мы пилим решетки, чтобы вырваться, и вырываемся, а наши вертухаи — такие же зеки, только в форме или при должности, — остаются за решеткой, потому что им начальство не скомандовало бежать. И даже когда на свободе окажутся все, эти предпочтут остаться в тюрьме. Они поймут команду "лицом к стене!", но слова "ты свободен" для них — иностранный язык.

Так кто из нас свободнее, мы или они? Нам — вверх, им — вниз, нам — вперед, им — назад. 19 декабря это стало ясно окончательно. И потому 19 декабря для меня важнее, чем Новый год или все наши дни рождения. Потому что именно в этот день вся страна села в тюрьму, и каждый сделал выбор: одни — к свободе, другие — к пожизненному заключению. И этих других мне не жалко — тот случай, когда выбор был сделан осознанно. Так что не о чем и некого жалеть.

ПРИМЕР?

## Владимир ПУТИН:

*"Я предлагаю и прошу ЦИК установить веб-камеры на всех избирательных участках страны. На всех! И пусть они работают там круглосуточно, днем и ночью. Вывесить все в интернет. И чтобы страна видела, что происходит возле конкретного ящика. (...) Оппозиция должна получить возможность контролировать все, что происходит на избирательных участках, в полном объеме. И с помощью этих веб-камер это вполне можно сделать".*

***

*"Я уже в самом начале 2000-х годов говорил, что я считаю себя человеком, которого народ нанимает на определенное время для определенной работы. Монархи опирались на определенные сословия, из которых набирали элитные подразделения — преображенцев, семеновцев. И на тот период времени это было, наверное, правильно.*

*В сегодняшних условиях не может быть ни преображенцев, ни семеновцев. Сегодня можно опираться только на российский народ. И если такой поддержки нет, то во власти нечего делать. Я могу вам сказать определенно: если такой поддержки я не буду чувствовать, — а есть эта поддержка или нет, это определяется не на каких-то сайтах и не на площадях даже, она в демократическом обществе определяется только по результатам голосования — и если я увижу, что такой поддержки нет, я ни одного дня не останусь в своем рабочем кабинете".*



# Пайшоў найвялікшы еўрапеец

***У Чэхіі ва ўзросце 75 гадоў памёр пісьменнік і першы прэзідэнт краіны пасля выхаду з-пад савецкага кантролю, самы знаны чэх Вацлаў Гавел.***



Па словах прэзідэнта ЗША Барака Абамы, Гавел *"дапамог адкрыць шлюзы гісторыі, і паток, што вызваліўся, прывёў да стварэння дэмакратычнай Еўропы"*.

Прэзідэнт Францыі Нікаля Сарказі адрэагаваў на вестку аб смерці Гавела словамі аб тым, што *"Францыя згубіла сябра, а Еўропа згубіла аднаго з сваіх мудрэйшых мужоў"*. Канцлер Германіі Ангела Меркель назвала Вацлава Гавела "вялікім еўрапейцам". "

Як паведаміла чэшскае тэлебачанне, Гавел памёр ад ускладненняў цяжкай і працяглай хваробы. Яго сакратар паведаміла, што Гавел памёр ува сне. У апошнія дні яго жыцця з ім была яго жонка Дагмара і некалькі манахінь. Пастаянныя хваробы дыхальных шляхоў у Гавела пачаліся яшчэ ў турме. У 1990-я гады ў ходзе аперацыі па выдаленні ракавай пухліны яму выдалілі частку лёгкага.

Гавел быў прэзідэнтам Чэхаславакіі пасля "аксамітнай рэвалюцыі" 1989 года. Пры ім у 1993 годзе краіна мірна падзялілася на Чэхію і Славакію, а сам Гавел яшчэ 10 гадоў займаў пасаду прэзідэнта Чэхіі.

Ён нарадзіўся ў 1936 годзе ў сям'і інжынера, які дабіўся поспеху, але пасля Другой сусветнай вайны, калі да ўлады прыйшлі камуністы, сям'я пазбавілася ўсяго.

Юны Вацлаў нават не змог пайсці ў сярэднюю школу: падвяло "буржуазнае" сацыяльнае паходжанне. Яму давялося вучыцца ў вячэрняй школе, а днём працаваць лабарантам.

Да пачатку "пражскай вясны" Гавел быў ужо папулярным драматургам: яго сатырычныя п'есы, якія высмейвалі сталінскую старую гвардыю, карысталіся вялікім поспехам. У палітыку ён не рваўся. Але быў вымушаны ёю заняцца, калі рэжым, што трымаўся на савецкіх штыках, забараніў творы Гавела.

Нягледзячы на ўсё сваё нежаданне займацца палітыкай, Гавел далучыўся да руху за дэмакратычныя змены, які атрымаў назву "Хартыя-77". За гэтую "антыдзяржаўную дзейнасць" ён правёў пяць гадоў у турме, і нават пасля вызвалення за ім неадступна хадзілі па слядах спецслужбы.

У 1989 годзе Гавелу давялося весці перамовы з той самай уладай, якая пасадзіла яго ў турму. Пасля мірных дэманстрацый і забастовак, якія не спыняліся 18 дзён, без усялякага гвалту камуністычная ўлада развалілася.

У снежні 1989 года ўчарашні асуджаны дысідэнт быў прыведзены да прысягі прэзідэнта на ўрачыстай цырымоніі ў каталіцкім саборы ў Празе.

За гады прэзідэнцтва Гавела Чэхія зноў стала ліберальнай дэмакратычнай краінай, перайшла ад планавай да рыначнай эканомікі, уступіла ў НАТА і заклала аснову для ўступлення ў Еўрасаюз.

*"Вацлаў Гавел быў адным з найвялікшых еўрапейцаў на нашым вяку"*, — адгукнуўся ў Twitter на навіну аб смерці экс-прэзідэнта Чэхіі шведскі міністр замежных спраў Карл Більдт.

**Алесь ДРАБЧУК.**

*З вялікім смуткам мы прынялі вестку аб смерці прэзідэнта Вацлава Гавела, выдатнага палітыка, драматурга і адначасова абаронцы правоў чалавека і вязня камуністычнай сістэмы. Яго смерць з'яўляецца велізарнай стратай для ўсіх нас. Мы губляем у яго асобе несумненны маральны і духоўны аўтарытэт. Вацлаў Гавел даказаў сваім жыццём, што непахісная пазіцыя чалавека адносна супярэчнасцяў лёсу і вернасць праўдзе могуць ажыццявіць тое, што здаецца немагчымым. Адышоў у вечнасць славуты чэх і еўрапеец, які адначасова быў сапраўдным сябрам Польшчы і палякаў.*

*Дзейнасць і пазіцыя Вацлава Гавела здабыла значнае міжнароднае прызнанне, пацвярджэннем чаго з'яўляюцца шматлікія ўзнагароды, сярод якіх таксама самая высокая польская ўзнагарода — ордэн Белага арла.*

*Ушанаванне яго памяці!*

**Лешэк Шарэпка,**
**Пасол Рэспублікі Польшча ў Мінску,**
**і супрацоўнікі пасольства.**

## Каб беларускі народ меў права вырашаць свой лёс

Міністры Еўрапейскага Саюза **Карл Більдт, Ульям Хаг, Радаслаў Сікорскі, Гіда Вестэрвеле** прынялі заяву ў сувязі з гадавінай падзей на Плошчы ў Мінску.

Яны выказалі салідарнасць цывілізаванай Еўропы з беларускім народам. *"Мы будзем падтрымліваць санкцыі ЕС, накіраваныя супраць усіх, хто нясе адказнасць за выпадкі грубага парушэння правоў чалавека, а таксама за фінансаванне рэжыму. Санкцыі не будуць датычыць простых грамадзян"*, — гаворыцца ў заяве. І далей: *"Мы будзем працягваць усе намаганні, каб паказаць звычайным беларусам, што існуе альтэрнатыўны шлях развіцця для іх краіны"*.

***

***З сумеснай заявай адносна гадавіны апошніх прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі выступілі дзяржсакратар ЗША Хілары Клінтан і высокі прадстаўнік ЕС Кэтрын Эштан.***

*(Поўныя тэксты заяў чытайце на сайце www.nv-online.info)*

## Жыццё Вацлава Гавела — прыклад непахіснай волі і высокай маральнасці

Беларуская інтэлігенцыя глыбока смуткуе з нагоды смерці Вацлава Гавела — першага прэзідэнта Чэхіі, вядомага драматурга і літаратурнага крытыка, грамадскага дзеяча, аднаго з ініцыятараў стварэння "Грамадскага форуму". Яго жыццё для ўсіх нас — прыклад адданага служэння Айчыне. Нягледзячы на рэпрэсіі, шальмаванне ў сродках масавай інфармацыі, ён заўсёды працягваў змагацца — не за ўладу, а за свабоду сваёй краіны. І перамог! Інтэлігент ва ўладзе, ён змог накіраваць краіну па шляху перамен, усприпнятых усім грамадствам Чэхіі.

Жыццё Вацлава Гавела — прыклад непахіснай волі і высокай маральнасці.

Мы заўсёды будзем памятаць яго адносіны да падзей у Беларусі, падтрымку нашай барацьбы за дэмакратычныя ідэалы. Вішаванне беларускім палітвязням з Новым годам, верагодна, самы апошні тэкст, які ён напісаў у сваім жыцці.

Інтэлігенцыя Беларусі схіляе галаву перад памяццю гэтага вялікага чалавека.

**Сябры Рады інтэлігенцыі: Алена Анісім, Зінаіда Бандарэнка, Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі, Аляксандр Вайтовіч, Марат Гаравы, Валянцін Голубеў, Радзім Гарэцкі, Анатоль Гуляеў, Сяргей Законнікаў, Леанід Злотнікаў, Святлана Калінкіна, Аляксей Кароль, Аляксандр Казулін, Арсень Ліс, Георгій Ліхтаровіч, Аляксей Марачкін, Пётр Садоўскі, Рыгор Сітніца, Уладзімір Содаль, Наталля Сцяжко, Аляксандр Сядзяка, Валерый Фралоў, Юрась Хадыка, Уладзімір Халіп, Юрый Хашчавацкі, Эрнэст Ялугін.**

(Працяг на 5-й стар.)

КОМПЕТЕНТНОЕ МНЕНИЕ

*Геннадий БЕСПАЛОВ*

# Менять ли пенсионное законодательство? Менять!

*Недавно в ряде государственных СМИ были проанонсированы возможные изменения в законодательстве о трудовых пенсиях. В отправном обосновании к ним отмечено: "...доля пенсионеров в общей численности населения нашей страны к 2030 году достигнет тридцати процентов. В то же время количество трудоспособных белорусов сократится практически на миллион. В результате мы придем к ситуации, когда плательщиков пенсионных взносов станет меньше, а пожилых людей, между которыми распределяются эти средства, больше. Понятно, что в таких условиях возрастет нагрузка на всю пенсионную систему и даже могут возникнуть проблемы с обеспечением выплат".*

Действительно, демографический прогноз страны весьма неблагоприятный. Отечественные демографы и экономисты не без оснований высказывают серьезные опасения за будущее пенсионной системы. Является очевидным, что чем дальше, тем сложнее будет сохранять нынешний уровень пенсий, не говоря уже о его повышении. Тем более в условиях негативного влияния мировых экономических и финансовых кризисов, медленной модернизации экономики страны и, как следствие, — низкой производительности труда. При этом следует отметить, что уже сегодня **в Беларуси нагрузка на экономику в виде взносов работодателей на пенсионное страхование** (составная часть себестоимости товаров и услуг) **одна из самых высоких**.

Проблемы демографического порядка, как известно, свойственны не только нашей стране, но и подавляющему большинству других государств, включая экономически развитые. Однако там в отличие от Беларуси своевременно реализованы либо реализуются эффективные меры по предотвращению проблем в пенсионном финансировании как на текущий период, так и на перспективу. Прежде всего, посредством программ повышения пенсионного возраста — уже сегодня в развитых странах он выше на 5—12 лет у женщин и на 5—7 лет у мужчин. Это позволяет **убить двух зайцев**: сохранять оптимальной пенсионную нагрузку и обеспечивать своим гражданам пенсии в старости, соразмерные с их страховым стажем и заработком.

В связи с этим зададимся вопросом: адекватны ли нарастающей в нашей стране демографической угрозе предполагаемые изменения в пенсионном законодательстве? На мой взгляд, они ей не соответствуют и должного эффекта не дадут. Остановлюсь лишь на одном из них.

### Невостребованный стимул

Основным из намечаемых изменений является корректировка норм, предусматривающих стимулирование более позднего выхода на пенсию. Оно рассматривается как альтернатива повышению пенсионного возраста и формулируется примерно так: *"прогрессивное увеличение пенсии по возрасту за стаж, отработанный после возникновения права на нее (при условии неполучения пенсии в период работы после достижения пенсионного возраста)"*.

Напомню: в Законе Республики Беларусь "О пенсионном обеспечении" есть статья 23-1 (введена в действие с 1.09.1998 г.). Она предусматривает увеличение пенсии по возрасту на 1 процент заработка за каждые два полных месяца работы после достижения 55/60 лет **без получения пенсии.** Этот стимул предполагается усилить. В качестве одного из вариантов обнародована такая прогрессия: бонус за каждые два месяца работы в течение первого года оставить прежним, за период работы в течение второго — повысить до 2, третьего и каждого последующего годов — до 3 процентов.

Казалось бы, схема выглядит заманчиво. Однако убежден: даже такой вариант повышения "премии" вряд ли пополнит ряды тех, кто будет отказываться от получения пенсии вместе с зарплатой.

Подтверждение тому — тринадцатилетний период применения указанной выше статьи пенсионного закона. Увы, подавляющее большинство работающих пенсионеров предпочитает получать и пенсию, и зарплату.

### Об авторе



*Геннадий Беспалов окончил юрфак БГУ, в 1968—2006 гг. работал в системе социальной защиты Беларуси, причем 15 лет — заместителем, первым заместителем министра. Был участником международных конференций и семинаров по вопросам социального обеспечения и пенсионной политики (в Варшаве, Вашингтоне, Вене, Стокгольме, Страсбурге и т.д.), проходил стажировку в МОТ и Международной ассоциации социального обеспечения, на месте изучал системы социальной защиты ряда стран. Оставил работу в социальном министерстве в связи с предельным для пребывания на госслужбе возрастом.*

*(Продолжение на 2—3-й стр.)*

**ЗА КРАТАМІ**



*Мінуў год пасля апошніх прэзідэнцкіх выбараў. Па-ранейшаму за кратамі знаходзяцца экс-кандыдаты ў прэзідэнты Мікалай Статкевіч і Андрэй Саннікаў, а таксама каардынатар "Хартыі'97" Зміцер Бандарэнка, актывісты Зміцер Дашкевіч і Эдуард Лобаў. На "хіміі"застаецца Павел Севярынец.*

## Саннікава трымаюць у асобнай камеры

Адвакатаў да экс-кандыдата на пасаду прэзідэнта Андрэя Саннікава не дапускаюць. Жонка палітвязня атрымлівае супярэчлівую інфармацыю пра свайго мужа. Нягледзячы на тое што паводле заканадаўчых норм яна мае права на доўгатэрміновае спатканне са сваім мужам, Ірыне Халіп адмаўляюць, спасылаючыся на тое, што Саннікаў знаходзіцца "на этапе".

Адвакатам Саннікава адміністрацыя паведаміла, што палітвязня трымаюць у так званым памяшканні камернага тыпу, але асобна ад іншых вязняў, дзеля яго бяспекі. Ірына Халіп лічыць, што такім чынам адміністрацыя Віцебскай папраўчай калоніі аказвае псіхалагічны ціск на яе мужа, каб той напісаў прашэнне на імя Аляксандра Лукашэнкі аб памілаванні.

## Правакацыя супраць Статкевіча?

Экс-кандыдат на пасаду прэзідэнта Мікалай Статкевіч таксама днямі трапіў у так званае памяшканне камернага тыпу Шклоўскай папраўчай калоніі. Грамадская жонка палітыка Марына Адамовіч распавяла, што з неафіцыйных крыніц ведае аб тым, што супраць Статкевіча была здзейснена правакацыя. Марына Адамовіч паведаміла, што ў любым выпадку наведае калонію, бо мае намер афіцыйна зарэгістраваць шлюб з Мікалаем Статкевічам. Яна лічыць, што палітвязня наўмысна змясцілі ў ізалятар, каб не даць магчымасці зарэгістраваць шлюб і яшчэ раз паздзекавацца з палітыка.

Статкевіча чакае суд, вынікам якога можа стаць перавод палітыка ў турму з-за парушэнняў рэжыму. Адамовіч перакананая, што ўсё робіцца з адзінай мэтай — прымусіць Статкевіча падаць просьбу аб памілаванні.

## Бандарэнка ў ізаляваным атрадзе

Зміцер Бандарэнка адбывае пакаранне ў Магілёўскай папраўчай калоніі ў атрадзе №17. Адміністрацыя калоніі паведаміла жонцы палітвязня, што гэты атрад лічыцца рэжымным і ізаляваны ад іншых.

Вольга Бандарэнка непакоіцца за здароўе свайго мужа. На сёння, 20 снежня, Зміцер Бандарэнка адбыў палову тэрміну пакарання. Раней да яго не ўжылі такую меру, як умоўнадатэрміновае вызваленне. Адміністрацыя патлумачыла, што палітвязень не стаў на шлях выпраўлення. Жонка Бандарэнкі спадзяецца, што адміністрацыя перагледзіць сваё ранейшае рашэнне.

## Усе беларускія структуры пакінулі прысуд Дашкевічу ў сіле

Зміцер Дашкевіч больш не можа разлічваць на адмену прысуду ў беларускіх структурах. 18 снежня ён атрымаў адказ з Вярхоўнага суда аб тым, што прысуд апазіцыянеру застаецца ў сіле. Гэта была апошняя ўстанова ў краіне, куды мог звярнуцца палітвязень па адмену пакарання. Цяпер лідар "Маладога фронту" (зарэгістраваны ў Чэхіі) можа шукаць справядлівасці толькі ў Камітэце ААН.

Зміцера Дашкевіча затрымалі разам з Эдуардам Лобавым за дзень да Плошчы. У двары дома, дзе маладафронтаўцы арандавалі кватэру, людзі ў цывільным павалілі хлопцаў на зямлю, выклікалі міліцыю, а потым у судзе давалі паказанні ў якасці пацярпелых ад нападу хуліганаў.

Дашкевічу застаецца адбываць пакаранне яшчэ адзін год. Паколькі ён мае спагнанні за парушэнне рэжыму, то на ўмоўнадатэрміновае вызваленне разлічваць не можа.

## Лобаву сядзець яшчэ тры гады?

Эдуарда Лобава, якога затрымалі разам са Зміцерам Дашкевічам, нядаўна пакаралі за парушэнне рэжыму — замест 30-кілаграмовай перадачы хлопцу дазволілі толькі 5 кілаграмаў прадуктаў. Эдуард адбывае пакаранне ў калоніі, што ў Івацэвіцкім раёне.

У свой час хлопец адмовіўся пісаць прашэнне аб памілаванні. Цяпер такіх прапаноў яму не робяць. Лобава пакаралі зняволеннем на чатыры гады. Адзін год ён ужо адседзеў. Маці Эдуарда Марына Лобава перакананая, што яе сына не адпусцяць раней пазначанага тэрміну. Яна кажа, што ніякіх ілюзій на гэты конт не мае.

## Севярынец мае магчымасць кантактаваць з паплечнікамі

Сустаршыня аргкамітэта па стварэнні Беларускай хрысціянскай дэмакратыі Павел Севярынец у адрозненне ад іншых палітвязняў адбывае пакаранне за Плошчу "на хіміі" ў вёсцы Куплін Пружанскага раёна. Ён адмовіўся пісаць прашэнне на імя кіраўніка краіны і адбывае пакаранне згодна з прысудам.

Севярынец мае магчымасць бачыцца са сваімі паплечнікамі і журналістамі, якія могуць падтрымаць палітвязня маральна і перадаць яму нейкія пачастункі. Днямі палітык заклікаў грамадскасць байкатаваць выбары ў Палату прадстаўнікоў да таго часу, пакуль не будуць унесены змены ў выбарчае заканадаўства.

**Любоў ЛУНЁВА.**

## Мікалай Аўтуховіч патрапіў пад прэс?

*Па словах праваабаронцаў, на ваўкавыскага прадпрымальніка Мікалая Аўтуховіча, які адбывае пакаранне ў Івацэвіцкай калоніі, узмацніўся ціск з боку адміністрацыі ўстановы.*

*"Уся інфармацыя, якую мы атрымліваем адносна Мікалая Аўтуховіча, — неафіцыйная,* — кажа праваабаронца Алег Волчак. *— Менавіта так стала вядома, што апошнія два тыдні на яго ўзмацніўся ціск. З'явіліся нават неправеранья звесткі, што Мікалай ускрыў сабе вены. Наколькі мне вядома, зараз праводзіцца праверка па гэтым факце. Але атрымаць нейкую дакладную інфармацыю ў калоніі вельмі складана, нават жонцы Аўтуховіча. Жывы чалавек ці не? Галадае альбо не галадае?Ці перавялі яго і памяшканне камернага тыпу і за што? Бо на мінулым тыдні на самай справе патэлефанаваў чалавек, які адбывае пакаранне разам з Аўтуховічам, і сказаў, што апошняга перавялі ў ПКТ. Дадаў, што з Мікалаем адбываецца нешта проста жахлівае, і кінуў трубку... Так што вельмі хацелася б атрымаць усе адказы ад афіцыйных асоб".*

Між тым, як паведамляе БелаПАН са спасылкай на крыніцу ў МУС, Мікалай Аўтуховіч на мінулым тыдні вены сабе не ўскрываў, але такая спроба была ім зроблена "некалі даўно" ў той жа калоніі. *"Ніякіх прадузятых адносін да Аўтуховіча няма, пакаранні, якія ён атрымлівае ў калоніі, з'яўляюцца вынікам парушэння рэжыму",* — заявіў суразмоўца агенцтва. Пры гэтым адміністрацыя калоніі і прадстаўнікі МУС афіцыйных каментарыяў пакуль не даюць.

А 15 снежня старшыня і сустаршыня аргкамітэта па стварэнні Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання ветэранаў баявых дзеянняў у Афганістане "Абаронцы Айчыны" Алег Волчак і Аляксандр Камароўскі накіравалі Генеральнаму пракурору Беларусі Аляксандру Канюку ліст, у якім звяртаюць увагу на тое, як парушаюцца ў калоніі правы ветэрана-"афганца" Мікалая Аўтуховіча.

— У лісце мы расклалі ўсе парушэнні ў адносінах да Аўтуховіча па паліцах, — кажа Алег Волчак. — Спадзяёмся, што адказ будзе не фармальнай адпіскай, а Генеральны пракурор дапаможа аднавіць правы Мікалая ў калоніі...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

## Алесю Бяляцкаму не дазволілі ўбачыцца з хворым бацькам

Жонка віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека, старшыні незарэгістраванага ў Беларусі праваабарончага цэнтра "Вясна" Алеся Бяляцкага, асуджанага на 4,5 года за нявыплату падаткаў у асабліва буйным памеры, звярнулася ў суд. Наталля Пінчук папрасіла суд Першамайскага раёна сталіцы адпусціць Алеся Бяляцкага, как ён мог убачыцца з бацькам.

Справа ў тым, што бацька праваабаронцы — Віктар Бяляцкі — цяжка хворы. У яго чацвёртая стадыя анкалагічнага захворвання, зараз ён не можа нават размаўляць.

Суд Першамайскага раёна сталіцы дазволіў Алесю Бяляцкаму ўбачыцца з бацькам. Жонка праваабаронцы паехала з адпаведным лістом у СІЗА Жодзіна. Аднак, прадстаўнікі адміністрацыі Жодзінскага СІЗА паведамілі Наталлі Пінчук, што не могуць выканаць рашэнне суда таму, што ў іх няма магчымасці канваіравання Бяляцкага ў Мінск. Таксама было заяўлена пра тое, што паперы з суда аб дазволе спаткання Бяляцкага з бацькам аформлены не належным чынам.

З Жодзіна Наталля Пінчук ізноў вярнулася ў Мінск, каб суд аформіў усе неабходныя паперы належным чынам. Але старшыня суда Першамайскага раёна Мінска Тамара Высоцкая адмовілася перааформіць дакументы, паведаміў праваабаронца Валянцін Стэфановіч.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

**САНКЦЫІ**

## Спіс неўязных у ЕС папоўнілі суддзя і пракурор

Савет Еўрасаюза ўхваліў пашырэнне санкцый супраць Беларусі, дадаўшы ў спіс тых, у каго замарожаны активы і каму забаронены ўезд у ЕС, дзвюх асоб, якія маюць дачыненне да суда над Бяляцкім. Гэта суддзя і пракурор Першамайскага раёна Мінска — **Сяргей Бандарэнка і Уладзімір Сайкоўскі.**

Як гаворыцца ў рашэнні Савета ЕС, дзяржабвінавачанне мела "яўную палітычную матывацыю". Акрамя таго, і суддзя, і пракурор дапусцілі "яўнае парушэнне Крымінальна-працэсуальнага кодэкса".

**АФІЦЫЙНА**

## Беларускі спецназ не лятаў у Казахстан

У мінулыя выхадныя сайт "Сацыялістычны супраціў Казахстана" распаўсюдзіў інфармацыю аб тым, што беларускі самалёт са спецназам прызямліўся ў аэрапорце "Актаў".

"Народная Воля" папрасіла пракаментаваць гэты факт тых, хто дакладна ведае, ці былі задзейнічаны нашы спецыялісты ў падаўленні масавых акцый у Казахстане.

**Аляксандр ЛАСТОЎСКІ, начальнік аддзела інфармацыі і грамадскіх сувязяў ГУУС Мінгарвыканкама:**

— Я такой інфармацыяй не валодаю, а да навіны, якую распаўсюдзілі ў інтэрнэце, стаўлюся скептычна. І наогул ні разу не чуў, каб наш спецназ выязджаў у іншыя краіны для навядзення там парадку. На падставе якіх нарматыўных дакументаў яны туды паедуць? Таму, прачытаўшы гэтую інфармацыю, усміхнуўся...

**Сяргей КАБАКОВІЧ, кіраўнік прэс-службы ўнутраных войск МУС:**

— Я пра гэта не чуў. Калі б на афіцыйным узроўні нешта падобнае было, думаю, міма мяне гэтая інфармацыя не прайшла б.

**Аляксандр ЛУКОМСКІ, палкоўнік, камандзір палка міліцыі спецыяльнага прызначэння ГУУС Мінгарвыканкама:**

— Гэтая інфармацыя — трызненне чыстай вады. Такога не магло быць і не будзе ніколі. Усе нашы на месцы, ніхто нікуды не выязджаў і не выязджае. Так што абвяргайце гэтую інфармацыю і не верце чуткам...

### ДАРЭЧЫ

Міністр унутраных спраў Казахстана **Калмуханбет Касымаў** учора таксама абверг чуткі аб тым, што для падаўлення беспарадкаў у Мангістаўскую вобласць былі накіраваны атрады амапаўцаў з Беларусі.

**Марына КОКТЫШ.**

**САЛІДАРНАСЦЬ**

## ...З мэтай найхутчэйшага вызвалення Алеся Бяляцкага

24 лістапада 2011 года судом Першамайскага раёна г.Мінска быў прыгавораны да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі з адбыццём пакарання ва ўмовах узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) і старшыня праваабарончага цэнтра "Вясна" Алесь Бяляцкі.

Нягледзячы на абстрактны характар абвінавачання, абсалютную адсутнасць доказаў, вялікую колькасць працэсуальных парушэнняў, супярэчанне абвінавачання беларускаму заканадаўству і міжнародным абавязацельствам Рэспублікі Беларусь, суд беспадстаўна прызнаў вінаватым Алеся Бяляцкага ва ўхіленні ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры, праігнараваўшы аб'ектыўныя сведчанні пра тое, што замежныя сродкі накіроўваліся не на ягоную карысць, а выключна на вызначаныя мэты праваабарончай дзейнасці. У сувязі з гэтым даныя сродкі не з'яўляліся аб'ектам падаткаабкладання. Насуперак заканадаўству суд прызнаў сродкі, накіраваныя праваабарончаму цэнтру "Вясна" ў якасці дапамогі ахвярам палітычных рэпрэсій і парушэнняў правоў чалавека, асабістым прыбыткам Алеся Бяляцкага. Працэс па справе старшыні праваабарончага цэнтра "Вясна" ў чарговы раз паказаў, што ў Беларусі адсутнічае незалежны і аб'ектыўны суд.

Алесь Бяляцкі не прызнае сваёй віны ў інкрымінаваным яму злачынстве і настойвае на сваім апраўданні. Прысуд абскарджаны згодна з заканадаўствам у касацыйным парадку ў Мінскі гарадскі суд.

Мы, прадстаўнікі беларускай грамадзянскай супольнасці, асуджаем незаконны прысуд Алесю Бяляцкаму і, улічваючы палітычную матываванасць справы, лічым, што ў данай сітуацыі неабходна прыкласці ўсе намаганні для найхутчэйшага яго вызвалення.

Мы заклікаем беларускае грамадства праявіць салідарнасць з Алесем Бяляцкім і праваабарончым цэнтрам "Вясна", які ў экстрэмальных умовах вось ужо 15 год бароніць правы беларускіх грамадзян.

У сувязі з гэтым з мэтай найхутчэйшага вызвалення Алеся Бяляцкага ці як мінімум змены меры стрымання альбо змякчэння надзвычай жорсткага прысуду, мы распачынаем кампанію па зборы сродкаў, якія былі прысуджаны Алесю Бяляцкаму да выплаты ў якасці "шкоды, нанесенай злачынствам".

Сума, якую неабходна сабраць, складае 757.526.717 (семсот пяцьдзесят сем мільёнаў пяцьсот дваццаць шэсць тысяч семсот сямнаццаць) рублёў.

Гэтую суму важна ўнесці да разгляду касацыйнай скаргі ў Мінскім гарадскім судзе, таму сабраць неабходныя сродкі мы просім як мага хутчэй, на працягу бліжэйшых некалькіх тыдняў, каб гэта магло паўплываць на вызначэнне касацыйнай інстанцыі.

Сума, якую неабходна ўнесці, сапраўды вельмі вялікая, але пасільная, калі беларускае грамадства праявіць свае найлепшыя якасці — салідарнасць, адказнасць, імкненне і волю да справядлівасці.

Мы падкрэсліваем, што пералічэнне гэтых грашовых сродкаў не азначае прызнання віны Алесем Бяляцкім — гэта толькі наша салідарная акцыя, накіраваная на вызваленне незаконна асуджанага праваабаронцы.

Грошы ў любым памеры могуць быць пералічаны на рахунак, адкрыты на імя жонкі Алеся Бяляцкага:

**Філіял №529 "Белсувязь" ААТ "АСБ Беларусбанк", код банка 720,**

**код плацяжу: 3819382100776,**

**р/р 01053568,**

**від плацяжу: напаўненне рахунку.**

**Атрымальнік плацяжу: Пінчук Наталля Сяргееўна.**

**УВАГА! Грошы могуць пералічаць толькі грамадзяне Рэспублікі Беларусь.**

У далейшым сродкі будуць накіраваны на адпаведны дзяржаўны рахунак.

Шаноўныя грамадзяне, мы просім кожнага пералічыць любую магчымую для вас суму грошай у якасці ахвяравання праз аддзяленні банкаў, а арыгінал квітанцыі даслаць на адрас: 220012 г.Мінск, пр.Незалежнасці, д.78а, кв.48.

Таксама з намі можна звязацца па тэлефоне +375-17-331-08-44 (гарадскі) ці праз электронную скрыню viasna@spring96.org.

**Алег ГУЛАК,**
**Інна КУЛЕЙ,**
**Алена ТАНКАЧОВА,**
**Жанна ЛІТВІНА,**
**Сяргей МАЦКЕВІЧ,**
**Валянцін СТЭФАНОВІЧ,**
**Аляксандр МІЛІНКЕВІЧ,**
**Раіса МІХАЙЛОЎСКАЯ,**
**Таццяна РАВЯКА.**

# Менять ли пенсионное

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Проведенный в 2001 году анализ показал, что за первые три года действия статьи 23-1, несмотря на разъяснительную работу, повышенная пенсия в связи с ее неполучением в период работы была назначена чуть больше чем тысяче человек (меньше 1 процента всех граждан, которым в 1998—2001 годах назначена пенсия по возрасту). При этом впечатлило другое: в числе граждан, получивших в указанный период повышенную пенсию, было немало тех, кто приобрел право на пенсию задолго до введения статьи 23-1, но не оформлял ее. За пенсией они не обращались, предпочитая продолжать работу и тем самым не давать повода нанимателям считать их пенсионерами и отправлять на "заслуженный" отдых. То есть для них было важнее оставаться "в строю". В качестве "рекордсменки" оказалась женщина из Гродно, обратившаяся за пенсией по возрасту через 19 с лишним лет. Кстати, ее пенсия вместе с бонусом составила сумму в три раза большую, чем она была бы в случае назначения и выплаты пенсии с момента приобретения на нее права.

Изменилось ли сегодня отношение наших соотечественников к возможности "накопить" себе повышенную пенсию в соответствии со статьей 23-1? На этот вопрос работники ряда районных пенсионных служб г.Минска и столичной области ответили однозначно: нет. По их словам, такую возможность используют лишь единицы и то, как правило, в течение нескольких месяцев, недостающих до полного года стажа. Как выразилась одна из сотрудниц пенсионной службы Минского района, наши граждане спешат стать пенсионерами, чтобы иметь дополнительный к зарплате источник дохода, исходя из соображения *"лучше синица в руках, чем журавль в небе"*. Надо полагать, что во многом такая позиция сформировалась не без влияния инфляционных процессов.

### Право на труд и право на пенсию

Известно, что Конституцией страны право на труд *"как наиболее достойный способ самоутверждения человека"* не ограничивается пенсионным возрастом. Сегодня продолжает трудиться каждый четвертый получатель трудовой пенсии, или более 600 тысяч человек (65 процентов из них женщины). Доля работающих пенсионеров в общей численности занятых в экономике составляет 13 процентов (не считая пенсионеров по линии силовых министерств и ведомств). При этом далеко не все они заняты на низкооплачиваемых рабочих местах. Многие, благодаря высокой квалификации, опыту и мастерству, ответственному отношению к делу, успешно конкурируют с молодыми работниками, даже продвигаются по службе. Польза здесь обоюдная — и для общества, и для самих пенсионеров. Посильный труд, как известно, повышает жизненный тонус человека и способствует активному долголетию: почти 20 процентов работающих пенсионеров старше 65 лет (больше половины из них женщины).

Однако у этого вопроса есть обратная сторона, суть которой в том, что **на выплаты работающим пенсионерам расходуется пятая часть пенсионного бюджета**. Это не может не ограничивать возможности для более высоких пенсий тем, кто вынужден оставлять работу, чаще всего по формальной причине — истечение срока контракта в связи с достижением пенсионного возраста. Не секрет, что для многих — и женщин, и мужчин — прекращение работы в 55/60 лет является сильным стрессом как по причинам психологического характера, так и в связи с потерей дохода: при относительно высокой предпенсионной зарплате он падает в 3—4 раза. Ведь далеко не каждый в состоянии смириться с резко изменившимся материальным положением и новым социальным статусом. Это относится прежде всего к мужчинам, как правило, главным добытчикам в семье. Не потому ли, как свидетельствует демографическая статистика, именно на первые годы после выхода на пенсию приходится всплеск смертности среди представителей сильного пола? Да и большинство женщин болезненно переживают списание их в разряд нетрудоспособных. К слову, уже упоминавшаяся гродненчанка (она была одинокой) на пенсии, к сожалению, прожила немногим более года.

Относительно права на пенсию статья 47 Конституции гласит: *"Гражданам Республики Беларусь гарантируется право на социальное обеспечение* ***в старости,*** *в случае болезни,* ***инвалидности..."*** То есть Основной закон страны, исходя из страховой сущности трудовой пенсии, определяет право на нее утратой дохода по указанным основаниям. Отсюда возникает вопрос: **разве нынешний пенсионный возраст — это старость,** ограничивающая способность к труду? Конечно же нет! По свидетельствам геронтологов, старение как фактор снижения функциональных резервов организма проявляется, как правило, после 65—67 лет, да и то далеко не у каждого человека в одинаковой мере (об основных причинах преждевременного старения и ранней смерти сказано дальше).

Закономерен еще один вопрос. Правильно ли, когда средства пенсионного страхования распределяются практически по равным меркам, как "молодым" пенсионерам по возрасту, продолжающим работу без потери трудового дохода, так и тем, кто вынужден оставить работу и жить лишь на небольшую пенсию? Если исходить из смысла конституционного положения, которое гласит, что ***"каждый имеет право на достойный уровень жизни"***, а также сущности государственного социального (пенсионного) страхования (**замещение утраченного заработка**), то назначение и выплата пенсии 55/60-летним работникам вдобавок к приличному заработку представляется не только нерациональной, но и неправомерной. Прежде всего потому, что такая щедрость пенсионной системы оборачивается скупостью к нетрудоспособным. Ведь жизнь на пенсии — тоже жизнь и довольно продолжительная: согласно статистике, у наших сограждан, достигающих пенсионного возраста, оставшаяся продолжительность жизни, а значит и период получения пенсии, в среднем составляет для женщин 24,6 года, для мужчин — 14,2 года. Уместно отметить, что в связи с более ранним наделением наших граждан статусом пенсионера общий (для обоих полов) **среднестатистический период получения пенсии по возрасту в Беларуси** (свыше 20 лет, с сохраняющейся тенденцией роста) **больше, чем в развитых странах**. А ведь именно этот показатель является основным инструментом расчета пенсионной нагрузки на экономику, а значит, и уровня пенсий. То есть чем дольше пенсионный период, тем больше средств требуется для финансирования пенсий.

### Как достичь достойных пенсий?

В отличие от развитых и других стран, пенсионная система Беларуси остается в числе единичных, которые дают *"слишком многим,* ***слишком рано*** *и слишком мало"*. Вряд ли можно оспорить такую оценку, которую дали международные эксперты еще в середине 90-х годов. Как результат, многие наши граждане вместо права на достойный уровень жизни в старости приобретают право на раннюю бедность. Необходимость принятия адекватных мер по обеспечению нетрудоспособных, тем более в связи с неблагоприятной демографической перспективой, является очевидной. Выбор путей решения этой проблемы, как свидетельствует мировой опыт, ограничен: как правило, либо увеличение тарифа взносов (или бюджетных дотаций), либо изменения в параметрах пенсионной системы (повышение пенсионного возраста, рационализация выплаты пенсий продолжающим оплачиваемую работу и т. д.).

Увеличение и без того высокого тарифа взносов на пенсионное страхование исключается, поскольку такой шаг не будет способствовать экономическому росту, а значит, и решению задачи повышения уровня благосостояния всех членов общества, включая пенсионеров. Один из реальных путей — осуществление эффективных параметрических изменений. При этом надо отметить, что из постсоветских государств практически только в Беларуси и России откладывается принятие назревших решений в пенсионном деле, и в частности, повышение возраста выхода на пенсию. Правда, судя по всему, соответствующие предложения у наших союзников находятся под спудом. Так, заместитель министра финансов Российской Федерации Сергей Шаталов, говоря о неизбежности повышения пенсионного возраста, совсем недавно заявил: *"...мы никуда не денемся от решения этого непростого вопроса..."*, отметив, что делаться это будет постепенно, поэтапно: *"Будем добавлять по полгода, может быть, по трети года ежегодно и определим на это лет 15, чтобы выйти на уровень 65 лет для выхода на пенсию"*.

Надо сказать, заявленная для России схема согласуется с программами, реализованными в развитых и других государствах. Частично такая программа реализована у наших соседей — в Литве. Свое первое решение о повышении возрастных критериев дальновидные литовские политики приняли еще в 1994 году: с 1995 года возраст выхода на пенсию ежегодно увеличивался для женщин на 4, для мужчин — на 2 месяца. С 1 января 2009 года он составляет соответственно 60 и 62,5 года. Однако уже в текущем году принят закон о втором этапе ежегодного повышения возрастного ценза (на 4 и 2 месяца): с 2012-го по 2026 год исходя из принципов гендерного равенства он будет доведен до единого критерия — 65 лет. К слову, в октябре этого года средняя пенсия в Литве составляла 800 литов (в эквиваленте — порядка 2,8 млн белорусских рублей).

Нельзя не отметить, что и в нашей стране в свое время вносились соответствующие предложения. Так, в первом пакете законопроектов, разработанных в 2001 году при содействии ПРООН и МОТ, предусматривалось ежегодное повышение пенсионного возраста на 6 месяцев для женщин и на 3 месяца для мужчин, с доведением в течение десяти лет, соответственно, до 60 и 62,5 года. Во втором варианте, вносившемся на рассмотрение в 2003 году, предлагалось повысить возрастные критерии сразу на 5 лет для женщин и на 2 года для мужчин. При этом предусматривалась возможность досрочного выхода на пенсию — в любое время после достижения 55/60 лет. Воспользоваться таким правом можно было бы при двух условиях: наличии не менее 30 лет страхового стажа и оставлении работы. То есть работник сам принимал бы решение: **оставить работу раньше** достижения повышенного пенсионного возраста, **но с меньшей пенсией или продолжать работу и получить пенсию позднее, но в большем размере**. И первый, а затем и второй варианты были одобрены правительством, но не поддержаны в следующей инстанции законотворческого процесса.

### Альтернативы повышению пенсионного возраста нет

Вернемся в сегодняшний день, к основному из намечаемых изменений ("*прогрессивное увеличение пенсии по возрасту... при условии неполуче-*

ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ...

# 40 скрыняў «сацыяльнага» малака раскупілі за дзве гадзіны

*Карэспандэнт «Народнай Волі» прайшоўся па сталічных крамах і рынках у пошуках прадуктаў па «сацыяльных» коштах.*

Раніцай у пятніцу выпраўляюся на **Чэрвеньскі рынак**. Ад гандляркі даведваюся, што спазніўся: таннае малако ўжо расхапалі. 40 скрыняў разышліся за дзве гадзіны — з 9 да 11 ранку. Высветлілася, што малако з тлустасцю 3,2% сюды прывозілі — па 2200 рублёў за літровы пакет. Гэта нават танней, чым "сацыяльны" кошт. Быў на Чэрвеньскім і танны кефір — па 2250 за літр. А вось, напрыклад, батон вышэйшага гатунку ляжаў тут па цане 3060 рублёў. Былі таксама смятана і тварог, аднак па коштах вышэй за "сацыяльныя".



Гандляркі расказваюць, што кожны дзень за танным малаком-кефірам на рынку выстройваюцца даўжэзныя чэргі. Каб набыць прадукты па сацыяльных коштах, людзі — у асноўным пенсіянеры — прыходзяць зранку, ледзьве не з 6.00.

"Не пашанцавала на Чэрвеньскім — пашанцуе на **Камароўскім рынку**", — разважаю я і крочу на галоўны сталічны базар.

Але ўжо праз хвіліну-другую разумею, што дарма. "Сацыяльнага" малака тут няма. Хаця выбар малочных прадуктаў на Камароўцы досыць багаты. Праўда, кошты на іх магазінныя. Так, літр малака тут каштуе 4600 рублёў, 400-грамовая ўпакоўка смятаны тлустасцю 26% — 9350...

Наступная кропка "даследавання" — магазін **"Еўраопт"**, што на праспекце Незалежнасці побач з плошчай Якуба Коласа.

Сетку магазінаў "Еўраопт" актыўна рэкламуюць. У рэкламе паведамляецца, што кошты на тавары ў гэтых крамах ніжэй, чым у звычайных магазінах. Сапраўды, нешта тут можна знайсці і танней, напрыклад садавіну, а вось сацыяльна важных тавараў па вызначаных дзяржавай цэнах тут не было. Больш за тое, малако толькі ў тэтрапаку за 7750 рублёў, 400 грамаў смятаны тлустасцю 26% — 9200, літр "Траецкага" кефіру — 5250 рублёў.

*Да ведама.* *У Беларусі вызначаны спіс "сацыяльных" тавараў, цэны на якія фіксаваныя:*
***малако*** *(1 л, тлустасць 3,5%) — 2320 рублёў,*
***кефір*** *(1 л, 3,5%) — 2340 рублёў,*
***смятана*** *(1 л, 25%) — 9310 рублёў,*
***тварог*** *(1 кг, тлустасць 9%) — 9700 рублёў,*
***аржаны хлеб*** *(апроч заварных гатункаў) — 1260 рублёў,*
***свініна*** *(мяса-косны паўфабрыкат, 1 кг) — 28.980 рублёў,*
***батон з пшанічнай мукі няздобны*** *(вышэйшага гатунку) — 2750 рублёў.*

У іншым буйным універсаме сталіцы — **"Цэнтральным"** — "сацыяльных" прадуктаў таксама не знайшоў. Пакупнікам прапаноўваліся: літровы пакет малака за 4650 рублёў, слоічак смятаны тлустасцю 26% ёмістасцю 230 грамаў — за 5310, 200-грамовы пачак тварагу тлустасцю 9% — за 5000 рублёў.

І ўсё ж такі знайсці краму, у якой кошты на тавары нагадваюць "сацыяльныя", удалося! Гэта магазін **"Старажытны"** на вуліцы Чырвонаармейскай. Літр малака тлустасцю 3,2%, прычым днём, тут можна было набыць за 2650 рублёў, кефір — за 2970, а пакунак "Чэрвеньскага" хлеба вагой у 350 грамаў за 2100 рублёў...

Такім чынам, пры жаданні знайсці сацыяльна важныя прадукты па нізкіх коштах у Мінску можна. Праўда, для гэтага прыйдзецца альбо рана падымацца, каб паспець заняць чаргу на тым жа Чэрвеньскім рынку, альбо аб'ехаць паўгорада ...

Іншае пытанне, чаму дзяржава, у якой "няма крызісу", вымушае людзей душыцца ў чэргах, каб купіць таннае малако? Але гэта тэма асобнага матэрыялу...

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

СЧИТАЛКА

## В ноябре помидоры подорожали на 70%

А по какой цене мы будем покупать овощи и фрукты к новогоднему столу?

В Главном статистическом управлении Минска сообщили, что в ноябре по сравнению с октябрем индекс цен на продовольственные товары в столице увеличился на 7,1%. Больше всего подорожали овощи. В среднем на 43%.

За ноябрь по сравнению с октябрем текущего года ***помидоры свежие*** подорожали на 70,6%,
***огурцы свежие*** — на 70,3%,
***капуста белокочанная свежая*** — на 24,4%,
***свекла*** — на 12,9%.

Цены на фрукты выросли на 4,9%, в том числе:
***на яблоки*** — на 18,2%,
***виноград*** — на 8%,
***сухофрукты*** — на 3,8%.

Понятно, к зиме цены на овощи и фрукты всегда подскакивают. Но на этот раз уж больно большой скачок.

СКАЗАНО!

## Александр ЛУКАШЕНКО:

*— На будущий год бюджет Академии наук должен быть урезан к уровню этого года. Отследите это... Они работают сами, зарабатывают приличные деньги, надо потихоньку их отводить от "кормушки".*

*...Пусть не наполовину, но 25—30% надо урезать. До тех пор, пока мы будем кормить не только ученых, но кого бы то ни было, и производственников, давать деньги из бюджета, притом невозвратные деньги, до тех пор они ничего делать не будут. Я ничего нового не сказал — такова жизнь.*

***(Из выступления на семинаре руководящих работников по вопросам импортозамещения !6 декабря 2011 г.)***

К СЛОВУ

## Национальная академия финансируется втрое меньше, чем МВД

В 2011 году расходы из государственного бюджета на структуру МВД составили более полутора триллиона рублей (1.632.280.591,6 тыс. рублей) , а Национальной академии — почти 500 миллиардов (495.998.557,5 тыс. рублей).

К слову, почти столько же средств из бюджета было направлено в Администрацию президента — 404,5 миллиарда (404.555.226,2 тыс. рублей).

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

НЕДОСТРОЙ

## Годовое задание по вводу жилья к декабрю выполнено лишь на 60,9%

По данным Белстата, в январе—ноябре 2011 года в Беларуси введено в строй 4 млн 566,9 тыс. кв. метров жилья, или 60,9% к годовому заданию (7,5 млн кв. м), сообщает БелаПАН.

В сравнении с январем—ноябрем 2010 года сдано площади на 898 тыс. кв. метров, или на 16,4%, меньше. Сокращение объемов ввода жилья зафиксировано во всех областях и Минске.

ПА ЧУТКАХ І...

## Тарыф на «Зялёную карту» павысіцца?

Па заходніх межах Беларусі папаўзлі чуткі — з пачатку 2012 года страхоўка "Зялёная карта" будзе каштаваць 100 еўра. Зараз гэтая сума складае 30 еўра.

Натуральна, новаўвядзенне ўдарыць па кішэні тых, хто рэгулярна перасякае мяжу на сваіх аўто. Чаму? Цяпер выехаць "за бугор" на сваім аўтатранспарце можна раз на восем дзён, а страхоўка афармляецца мінімум на 15 дзён. Арыфметыка не на карысць аўтападарожнікаў...

Чуткі спарадзілі і яшчэ адзін пярэпалах: быццам бы падымуць тарыфы і на абавязковае страхаванне грамадзянскай адказнасці ўладальнікаў аўтатранспартных сродкаў. *"Пакуль пра павышэнне кошту страховак казаць рана,* — упэўнены дырэктар філіяла "Белкаапстраху" ў Гродне Анатоль Абрамчык. — *Бо няма ніякіх дакументаў аб падаражанні, ды і афіцыйныя паперы прыходзяць зараней, звычайна за месяц. Так што хвалявацца няма чаго..."*

Тэрэса Пацэвіч, намеснік дырэктара прадстаўніцтва "Белдзяржстраху", таксама разводзіць рукамі: невядома, адкуль бяруцца такія чуткі, упершыню чую пра падаражанне. Тым не менш, па словах саміх жа страхаўшчыкоў, пытанне можа быць разгледжана, асабліва датычна абавязковага страхавання. Справа ў тым, што сярэдні кошт рамонту аўтамабіля пасля ДТЗ са жніўня павысіўся ў два — два з паловай разы. Да таго ж павысіўся і курс еўра, да якога прывязаны страхавыя тарыфы. Што ж адносна страховак "Зялёная карта" (выезд за мяжу), то тут сітуацыя іншая. Цяпер, каб выехаць ва Украіну ці ў Расію, дастаткова выкласці 5 еўра... Гэта, на думку страхаўшчыкоў, мізэрная сума — значыцца, тарыф можа быць і павышаны. А "Зялёная карта" ў краіны Еўропы (сама страхоўка на 15 дзён) каштуе 30 еўра. І гэтая колькасць дзён прадугледжана беларускім заканадаўствам, выдаваць жа страхавы поліс на 1—2 дні ніхто не будзе... Карацей кажучы, чуткі пра непазбежныя змены ў бок павышэння тарыфаў могуць мець пад сабой падставу. Але рабіць канчатковы вывад рана. Магчыма, нічога мяняцца і не будзе. Час пакажа...

**Георгій ПЛАТОНАЎ.**

РЭГІЁНЫ

## Самы жаданы мужчына Шклова — фізкультурнік

*Пераможцам конкурсу "Містэр Шклоў" стаў кіраўнік аддзела цэнтра фізкультурна-аздараўленчай працы з насельніцтвам Шклоўскага раёна* ***Аляксандр Лосеў.***

Мужчынам-прыгажунам у адрозненне ад дзяўчат уручалі не карону, а хрустальны рог.

Па інфармацыі газеты "Ударны фронт", на працягу выканання пяці конкурсных заданняў мужчыны паказалі свае таленты і навыкі, спрыт і вынаходлівасць, уменне пераўвасабляцца і зачароўваць прысутных. Кожны з іх быў па-свойму добры і меў індывідуальную разыначку.

Цікава, што спонсарамі вечарыны часткова сталі працоўныя калектывы, дзе выхоўваліся лепшыя мужчыны Шклова.

## У Брэсце прадаюць атручаныя цацкі?

*Пагуляўшы з цацкай, маленькая жыхарка абласнога цэнтра зарабіла дэрматыт.*

Набываючы сваёй двухгадовай дачцэ новую развіваючую цацку, жанчына і падумаць не магла аб наступствах. Каляровы дыванок-пазл каштаваў падазрона танна, і жанчына не вытрымала — набыла малой падарунак. Перад тым як даць цацку дзіцяці, бацькі памылі дэталі. Але гэта не выратавала дзяўчынку ад моцнага дэрматыту. Урач пацвердзіла, што прычынай захворвання мог стаць кантакт з цацкай. У краме, дзе прадаваўся тавар, у яго няякаснасць не вераць. Праўда, дыванкі аддалі на экспертызу, а рэшты партыі знялі з продажу.

## Рабаўнік у пастцы

*Гандлярка крамы вёскі Халоднікі Калінкавіцкага раёна адзначана Ганаровай граматай і грашовай прэміяй упраўлення ўнутраных спраў Гомельскага аблвыканкама.*

Яна перахітрыла рабаўніка. Увечары ў гандлёвую залу невялікай вясковай крамы зайшоў малады чалавек. Пастаяўшы каля вітрын некаторы час, ён зацікавіўся нажамі, якія ляжалі на прылаўку. Праз некалькі хвілін небяспечны прадмет апынуўся ў хлопца ў руках, пасля чаго прагучала патрабаванне выдаць грошы. Гандлярка не разгубілася, выбегла з крамы і ключом замкнула знешнія дзверы. У выніку няўдалы рабаўнік апынуўся ў пастцы. Характэрна, што гэта ўжо другі падобны выпадак у працоўнай біяграфіі жанчыны. Год таму, калі пасля закрыцця сельмага спрацавала сігналізацыя, яна таксама замкнула злодзея, які пракраўся ўнутр праз складское памяшканне.

## У Горках да «Дажынак» пабудуюць новы аўтавакзал

*На новы аўтавакзал патрацяць каля 6 мільярдаў рублёў.*

Ад старога будынка застануцца толькі сцены. Касы будуць абсталяваны камп'ютэрнымі тэрміналамі. З'явіцца і асобны ганак з пандусам і шкляным тамбурам з вітражоў алюмініевага профілю. Зрэшты, з такіх шкляных вітражоў будзе выкананы ўвесь "парадны" фасад будынка з боку вуліцы Вакзальнай.

## Віват камісіёнкам!

*За бягучы год магазіны камісіённага гандлю з'явіліся ва ўсіх абласных і некаторых раённых цэнтрах Беларусі. Не стаў выключэннем і Добруш.*

Прысвяціць матэрыял камісіёнкам вырашылі журналісты газеты "Добрушскі край". Іх цікавіла, што і як прадаюць у такіх крамах. Згодна з пералікам, магазін прымае верхні трыкатаж, швейныя вырабы, шапкі, мэблю, фарфоравы посуд, дываны, спартыўны інвентар. Каштоўныя ўпрыгажэнні і адзенне для дзяцей да трох год на паліцах не з'явяцца ніколі — забаронена заканадаўствам.

Каб магазін не станавіўся звычайнай камерай захоўвання, праз 20 рабочых дзён цана на тавар, калі ён не рэалізаваны, зніжаецца на 20%, пасля 14 дзён пасля ўцэнкі яна падае яшчэ на 20%, а пасля чарговых 14 дзён — на 50% або да першай прапанаванай пакупніком цаны.

**Рэгіянальныя навіны збірала Марыя МАЛЕВІЧ.**

# законодательство? Менять!

*ния пенсии в период работы..."*). Как уже отмечалось, оно не даст ни сколько-нибудь заметного социального, ни экономического эффекта. При этом у него как минимум два существенных недостатка. Во-первых, достижение 55/60-летнего возраста по-прежнему будет основанием для истечения срока контракта и прекращения с работником трудовых отношений вне зависимости от его желания продолжать работу (как с получением пенсии, так и без обращения за ней). То есть прежде всего от нанимателя, а не работника, будет зависеть решение этого вопроса. Во-вторых, **введение повышенного бонуса**, даже при его очевидной невостребованности, по сути, — **мера, противоположная директивному увеличению возрастных критериев**. Без должного эффекта, она к тому же надолго законсервирует принятие программы их повышения как самого эффективного и, надо прямо сказать, судьбоносного для нашей пенсионной системы шага, способного сохранить ее финансовую стабильность и обеспечить приемлемый уровень пенсий. По оценке, **увеличение пенсионного возраста на 1 год дает экономию до 5—7 процентов целевых средств** (в зависимости от численности соответствующей возрастной когорты), предназначенных для финансирования пенсий по старости. За счет такой экономии можно было бы отойти от нынешней уравнительности и усилить дифференциацию в выплатах нетрудоспособным пенсионерам, то есть **установить большую степень зависимости размеров пенсий от страхового стажа и заработка**.

И если в России, более богатом ресурсами государстве, по словам ответственных чиновников (и экспертов), без повышения пенсионного возраста не обойтись, то в Беларуси такой шаг тем более необходим. И чем скорее он будет сделан, тем лучше. При этом наряду с вариантом, высказанным Сергеем Шаталовым, следует рассматривать и обсуждать другие варианты и, в частности, — одномоментное увеличение возрастных критериев с возможностью досрочного выхода на пенсию для желающих оставить работу. Некоторые плюсы такого шага отмечены выше. К сказанному добавлю следующее.

В 90-х годах автору этих строк довелось побывать на обучающих семинарах по организации социального (пенсионного) страхования в Германии, Швеции и в других странах, а также пообщаться с потенциальными и состоявшимися пенсионерами. Возраст выхода на пенсию по старости в названных странах в те годы составлял 65 лет (в Германии в период с 2012-го по 2029 год он будет постепенно повышен до 67 лет) с возможностью досрочного получения неполной пенсии начиная с 60 лет. В беседах с будущими шведскими пенсионерами был впечатлен их ответами на вопрос: намерены ли они использовать возможность выхода на пенсию раньше 65 лет? Ни один из собеседников, даже полицейский, у которого такой же возрастной порог, не ответил утвердительно. Суть доводов сводилась к следующему: зачем торопиться стать пенсионером, тем более что каждый год досрочного назначения пенсии влечет за собой уменьшение ее размера на 5 процентов? (Если мне не изменяет память, в Германии такая "скидка" составляла 3,6 процента.) Хотя, по словам собеседников, некоторые их сограждане в силу определенных обстоятельств (семейных либо связанных со спецификой работы и других) такую возможность используют.

Как видим, и в Беларуси, и в других странах многие, даже 65-летние, пенсионеры не спешат оставлять работу по своей инициативе. Этот факт доктор медицинских наук, профессор Владимир Сытый оценивает так: *"...чем дольше человек сохраняет трудоспособность, тем дольше он живет. Иначе говоря, профессиональное долголетие определяет долголетие вообще. И в этом смысле* ***повышение пенсионного возраста — дополнительный фактор увеличения продолжительности жизни"*** ("СБ Беларусь сегодня", 13.01.2011 г.). Вторит ему главный научный сотрудник отдела демографии и человеческого развития Института экономики НАН Беларуси, доктор социологических наук, профессор Людмила Шахотько: ***"Пенсионный возраст, безусловно, надо повышать...*** *белорусы стареют... этот процесс идет даже быстрее, чем показывала текущая отчетность...",* отмечая при этом, что ***"...современных женщин в 55 лет пенсионерами называть неприлично".*** А этот акцент, по сути, — упрек известного ученого в дискриминации белорусских женщин, особенно в случаях, когда в таком возрасте их в принудительном порядке отправляют на пенсию. В связи с этим не могу не покаяться (был причастен), что в нашем пенсионном законе вместо термина *"пенсия по старости"* содержится термин *"пенсия по возрасту"*, что не согласуется ни с установками МОТ, ни с мировой практикой, ни с принципами социального страхования, ни с Конституцией страны. Во всяком случае многое сегодня было бы более понятным, как гражданам, так и политикам. Но, с другой стороны, называть 55-летних женщин пенсионерами по старости тем более было бы оскорбительным.

### Рано умирают — почему?

Итак, если не на словах, а на деле озаботиться будущим пенсионной системы страны, то медлить с принятием адекватных мер уже нельзя. Ведь в отличие от планируемых поправок повышение пенсионного возраста не самоцель, а настоятельная необходимость. Об упускаемой возможности по примеру других государств убить двух зайцев сказано в начале статьи. Какие же аргументы (кроме возможного личного интереса) у противников приближения возрастных критериев собственно к старости? Довод, можно сказать, единственный и избитый: *"мужчины не доживают до пенсии"*. Действительно, продолжительность жизни у женщин больше. Так, показатель средней продолжительности жизни **при рождении** (определяется продолжительностью жизни всех умерших, **включая младенцев**) за 2010 год составил для женщин 76,5 года, для мужчин — 64,6 (за 2001 год соответственно 74,5 и 62,8). Разница, как видим, почти 12 лет — с тенденцией роста как женского показателя, так и мужского. О другом важном для пенсионной системы показателе — средней продолжительности жизни у женщин и мужчин, **достигших пенсионного возраста**, сказано выше (24,6 и 14,2 года). О чем говорят эти данные? Прежде всего об обоснованности выравнивания возрастных критериев в праве на пенсию в других странах (у нас, к примеру, гендерный подход присутствует в виде одинакового предельного возраста пребывания на госслужбе (65 лет).

Что же касается причин меньшей продолжительности жизни у мужчин, то наряду с биологическими и генетическими различиями они кроются прежде всего в социальных факторах и, в частности, в образе жизни. Доказано, что львиная доля случаев преждевременного старения и смерти представителей сильного пола — следствие неправильного образа жизни и вредных привычек (несбалансированное питание, алкоголизм, курение, наркомания, склонность к необоснованным рискам и т.д.). Так, по свидетельствам медиков, злоупотребление алкоголем в среднем сокращает жизнь на 20—22 года. При этом благодаря доступности спиртного (как по цене, так и по размаху сети реализации) масштабы алкоголизации в стране ширятся. В том числе за счет части молодежи, включая несовершеннолетних, пристрастившейся к пиву. Известно, что излишнее употребление этого, казалось бы, безобидного напитка поражает сердце, сосуды, почки, сказывается на психике. К тому же увлечение пивом со временем перерастает в тягу к более крепким напиткам. Еще одна причина медленного самоубийства — курение, сокращающее жизнь в среднем на 8—9 лет. Подумать только: от причин, связанных с этой пагубной привычкой (более 50 процентов мужчин курит), ежегодно умирает свыше 15 тысяч человек, в основном мужчины. А ведь вредные привычки чаще всего сочетаются...

Еще одна реальность. Из года в год **в статистике смертности в трудоспособном возрасте на первом месте так называемые внешние причины**: несчастные случаи, в том числе ДТП, самоубийства, случайные отравления алкоголем; случайные утопления и т.д. За 2009 год от этих причин погибло 13.896 человек (в трудоспособном возрасте — 9911), среди них немало детей, гибнущих при ночных пожарах вследствие курения в постели нетрезвых родителей, на дорогах по вине пьяных водителей и при других обстоятельствах. Возьмем, к примеру, данные ОСВОДа. За последние десять лет при купании, рыбной ловле, в бытовых условиях (ванны, бассейны и т.д.) утонуло более 11 тысяч человек (в основном мужского пола), в том числе 900 детей. Причем все трагедии на воде в основном происходят опять-таки из-за злоупотребления алкоголем, а также собственного безрассудства, недосмотра родителей и т.п. Следует также отметить, что в стране свыше 370 тысяч получателей трудовых пенсий по инвалидности и по случаю потери кормильца. Зачастую соответствующий страховой случай (инвалидность, смерть кормильца) также является следствием неправильного образа жизни или поведения. В итоге — пенсионная система рано теряет плательщиков взносов, а взамен чаще всего приобретает получателей пенсий по инвалидности либо в связи с потерей кормильца (как правило, на детей). Сегодня на выплату таких пенсий идет более 300 млрд рублей в месяц.

Исходя из изложенного позволю себе несколько риторических вопросов. Как долго пенсионная система страны будет заложницей сложившихся стереотипов и заблуждений, касающихся продолжительности жизни, в частности, у мужчин? Откуда быть иной статистике продолжительности жизни у белорусских мужчин, если для многих из них игнорирование здорового образа жизни является нормой, если благодаря их "вкладу" Беларусь находится в первой десятке самых пьющих стран мира? (По данным ВОЗ, на каждого жителя нашей страны приходится свыше 15 литров алкоголя при среднем мировом показателе — 6,1 литра.) Должно ли государство быть собесом для 55/60-летних получателей пенсий, продолжающих работать с достаточно высокой зарплатой? Когда в обществе наступит понимание того, что сторонники сохранения статус-кво в возрастных критериях являются противниками достойных пенсий тем, кто отработал свое и живет, как правило, лишь на скромную пенсию? (**Неработающих пенсионеров у нас более 1,8 млн.**)

В заключение приведу слова главного научного сотрудника Института экономики НАН Беларуси, доктора экономических наук, профессора Андрея Ракова: *"Проблема повышения пенсионного возраста носит и экономический, и социальный, и политический характер. И если этот вопрос не выносится у нас на обсуждение, то только по причине трусости и недальновидности политиков и парламентариев. Пенсионный возраст надо поднимать обязательно...* ***Думаю, политики напрасно боятся, что "народ не поймет" решения повысить возраст выхода на пенсию"***. Нельзя не согласиться с суждениями недавно ушедшего из жизни видного белорусского ученого-демографа. Действительно, если будут подготовлены взвешенные, проверенные мировым опытом прогрессивные решения, связанные с повышением возрастных критериев, и соответствующие обоснования к ним, то общество в состоянии разобраться в благих целях их принятия.

МНЕНИЕ

## Против течения мы не выплывем

Я прожил достаточно долгую жизнь. Помню, как в 50-е годы прошлого столетия народ ждал весны. Вернее, 1 марта или 1 апреля. В эти дни происходило значительное снижение цен. Сейчас о снижении цен мы слышим лишь в рекламе.

Но то, что наблюдается у нас в настоящее время, вообще уже ни в какие рамки не укладывается. И росту цифр на ценниках не видно конца! В то же время государственные СМИ так ушло уводят народ от этой проблемы, что диву даешься. Где это видано — главное лицо страны заявляет: больше цены повышаться не будут, а чуть ли не завтра следует их рост почти в два раза. Это же чистейшей воды обман, если не мошенничество. И теперь уже президент говорит, что виноват народ со своим ажиотажным спросом.

Между тем причина ясна всем экономистам: неразумная экономическая политика.

Вспомним обвал рубля в 2009 году. Что тогда говорил главный банкир страны Петр Прокопович? Виноват доллар, и в дальнейшем курс будет привязываться к корзине валют (доллар—евро—рубль). И что за толк был от такой привязки?

С марта по настоящее время покупательская способность населения уменьшилась в два с лишним раза. Кто виноват? Теперь говорят, что внешние факторы. Всегда есть отговорки, отмазки и оправдания. На самом деле это "аукнулись" предвыборные 500 долларов средней зарплаты в конце 2010 года. Значит, сами мы и виноваты. Только мы!

Кредиты белорусской экономике не помогут. Они только загонят проблему внутрь. Ведь их надо будет отдавать нашим детям и внукам.

Власть еще может существовать некоторое время, продавая наши лучшие активы (МАЗ, МТЗ, НПЗ и так далее). Но задумайтесь: кто строил эти заводы? Мы, теперь 60-, 70- и 80-летние белорусы! За это в свое время мы получили чеки "Имущество". Так что без нашего ведома власть не имеет права эти предприятия продавать. Что она построила? Ледовые дворцы?! Вот пусть и выставляет их на продажу.

Стране необходимо привлекать инвестиции, модернизировать производства. А они могут прийти только с Запада, ибо и сама Россия в них нуждается. Никакое государство не может развиваться в изоляционных рамках, только Беларусь делает вид, что можно сотворить чудо. Почему ни одному из руководителей стран СНГ не заказан въезд в страны ЕС, Америки, а только нашему президенту? Как мы дожили до такого? Как страна может развиваться в таких условиях?

Амбиции не позволяют Александру Лукашенко реально посмотреть на вещи и реально оценить свою роль в том, что происходит в Беларуси. Никуда мы против течения не выплывем.

**С уважением —**

**Вячеслав Станиславович САНДЮК.**

*Минск.*



***Пётр САДОЎСКІ,***
*Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь у ФРГ (1992—1995 гг.)*

# Расійскія «металадэфектары»

Пасля выбуху ў мінскім метро, як чула і бачыла ў тэлевізары ўся Беларусь, кіраўнік нашай дзяржавы, не чакаючы судовага вердыкту, аб'явіў праз паўтара дня, што злачынцы затрыманыя, што яны прызналіся і ў здзяйсненні выбуху каля стэлы "Мінск — горад-герой". Аляксандр Лукашэнка даў надзвычай высокую ацэнку працы МУС і КДБ і паабяцаў узнагародзіць следчых і аператыўных работнікаў новымі званнямі, грашыма ды кватэрамі. Так было і зроблена. Па-добраму, трэба толькі вітаць, што дзяржава шануе добрых працаўнікоў. Аднак судовы працэс і рашэнне суда апошняй інстанцыі, як ужо шмат пісалася і гаварылася, выклікалі шмат пытанняў і сумненняў: ці тых засудзілі, ці не засталіся на волі іншыя саўдзельнікі і заказчыкі, ці бяспечна ездзіць у метро зараз?

Пасажыры пачалі больш уважліва аглядацца пры паездках, напачатку нават не скардзіліся на тое, што прыбралі лаўкі з перонаў метро, што міліцыя пачала металадэтэктарамі і рукамі абшукваць людзей. Праз пэўны час, праўда, найбольш дасведчаныя і востраязыкія асобы пачалі выказваць сумнеў пра эфектыўнасць такіх захадаў: тады ўжо трэба і з чыгуначных, і з аўтобусных вакзалаў, і нават з электрычак прымаць сядзенні, а для выяўлення выбухоўкі тыпу пластыду выкарыстоўваць сабак і г. д. Пазней у метро лаўкі зноў паставілі на месца. Праўда, на прыпынку "Фрунзенская", дзе я звычайна саджуся ў метро, іх пакуль няма. Пэўна, нашы спецслужбы думаюць, што наступныя тэрарысты зноў будуць садзіцца на гэтай жа станцыі.

Што да мяне, дык я зрабіў сваё мікраназіранне, якое таксама пасеяла ладны сумнеў у здольнасці нашых службаў гарантаваць нам бяспеку ў месцах масавага знаходжання людзей тымі спосабамі і сродкамі, якія практыкуюцца. Сталася так, што я зламаў руку ("поўны закрыты пералом пляча са зрухам адломкаў") і перанёс аперацыю, якая ў спецыяльнай тэрміналогіі называецца "інтрамедулярны сінтэз плечавой косці". Кажучы зразумелымі словамі: каб не парушыць незваротна нервовую і мускульную тканку дактары нашай 6-й гарадской траўматалогіі (дай ім Бог здароўя!) , не ўскрываючы пералом, уставілі мне праз плячо ў касцявы канал тытанавую шыну, замацаваўшы яе спецыяльнымі шрубамі з таго ж тытану. Так буду хадзіць да самай смерці. (Паводле рэнтгенаўскага здымку ў натуральную велічыню даўжыня шыны значна большая за 20 см). Пры выпісцы мне далі копію здымка на выпадак праходжання "рамкі" ў аэрапортах ці на спецыяльных аб'ектах, бо тытан, як метал, будзе "ўзрушваць" кантрольныя прыборы.

На маё здзіўленне першае праходжанне праз металашукальнік у аэрапорце "Мінск-2" па дарозе ў Берлін прайшло гладка: прыборы нічога не зафіксавалі. Я прамаўчаў і не паказваў рэнтгенаўскі здымак, каб не папасці ў спецыяльны агляд, бо служба бяспекі ўжо была прычапілася да цюбіка зубной пасты, якая праходзіла па мілілітрах, але не ўлазіла паводле габарытаў у кантрольны шаблон. Была даўжэйшая на 5 міліметраў. Былі прэтэнзіі і да маленечкай шрубавёрткі для акулярнай аправы, якую я некалі купіў у Нямеччыне разам з футэралам. Каб ехаць без багажу, прыйшлося выкінуць і пасту, і мініяцюрную шрубавёртку як "колющий инструмент". (Дарэчы, пазней у Мінску я нідзе не знайшоў пасты ў кароткіх цюбіках). От, думаю, "колющий предмет" памерам 20 мм адабралі, а металічную шыну на 20 см у руцэ не заўважылі... А калі б я быў тэрарыст-самазабойца?

Пры тэхнічным кантролі ў Берліне нямецкі металашукальнік запішчаў так, што праз некалькі секунд я апынуўся ў атачэнні чатырох супрацоўнікаў бяспекі, і мусіў паказаць здымак. Я запытаўся ў памежнікаў, чаму мінскія металадэтэктары не зрэагавалі? Адзін з іх усміхнуўся і сказаў: "Мы ведаем, якімі прыборамі вашы карыстаюцца. Гэта расійскія, пэўна, сумеснай вытворчасці з нейкай сумніўнай замежнай фірмай. Яны рэагуюць толькі на значна большую масу ў параўнанні з нашымі і зусім не рэагуюць на характарыстыкі шчыльнасці металу. У нас такія не сертыфікуюцца".

Вяртаючыся дадому, я ўжо запытаўся ў нашым аэрапорце, як патлумачыць, што ў нас такія металашукальнікі. У адказ пачуў: "Якія даюць, такімі і працуем. Вы ў нас першы з такімі прэтэнзіямі..."

Потым некалькі разоў я ветліва звяртаўся да дзяжурных міліцыянераў у метро і прасіў праверыць металашукальнікам руку з шынай. Вынік адзін: нуль рэакцыі. Хто абыякава, хто трохі вінавата, гаварылі: "Такія даюць..." Адзін лейтэнант, мажны дзяцюк гадоў на 35—40, быў больш жвавы і, смеючыся, выказаўся так: "Да это — российское фуфло, наверное, с откатом вдули...".

Ну, думаю, няўжо праўду кажуць немцы ды гэты лейтэнант? Ды якая ж гэта бяспека? Можа б, лепш гэтыя "металадэфектары" на добрыя прыборы замяніць, чым плойму мардатых амапаўцаў з дручкамі карміць? Можа, было б лепш купіць у немцаў ліцэнзію ды сваё начынне майстраваць? Ой, мы яшчэ паплачам з гэтым "усходнім вектарам інтэграцыі"...

ПАЗІЦЫЯ

## Не, не ўсіх запалохалі

Добрага здароўя ўсім у рэдакцыі "Народнай Волі" і яе чытачам!

Дзякуючы Вам пачала зноў вучыцца пісаць на роднай мове. Бяру ў бібліятэцы класікаў. Чытаю. Знайшла ў Янкі Купалы верш, які адпавядае нашаму часу, хоць і пісаў яго пясняр аж у 1907 годзе.

### Разлад

*Куды ні глянеш — людзі, людзі,*
*Куды ні глянеш — шэльмы, шэльмы,*
*Куды ні глянеш - б'юцца ў грудзі,*
*Што значыць: правільныя вельмі.*

*Адзін накраў — багацце ўмножыў,*
*Другі згалеў, галей сабакі...*
*Бяду нажыці ўсякі можа,*
*Бяды пазбыцися — не ўсякі.*

*Аслу з напоўненай машною*
*Леў акаваны лапы ліжа...*
*Рака затоўчана крывёю,*
*Ўдава заводзіць каля крыжа.*

*Дабро і зло — ў аднолькай мерцы;*
*Свіння святыя думы блоце,*
*Вужакі сыкаюць на сэрцы,*
*Душа валяецца ў балоце.*

*Крутым хвастом на ўсе староны,*
*Як сучка, доля меле, дзеле:*
*Адным спраўляе пахароны,*
*Другіх склікае на вяселле.*

*Няпраўда праўду акілзала*
*І едзе людскасці па спіне,*
*А чалавек — ком гною, сала —*
*Быдлём, сляпнём жыве і гіне.*

*Адзін чорт весел, зубы скаліць,*
*Загаціў пекла да варотаў;*
*Рад шэльма: польку з ведзьмай валіць...*
*Такі разлад — яго работа!*

Верш класіка прыводзіць да роздуму. Яшчэ год таму спадзявалася, што нешта сур'ёзнае зменіцца і жыццё пачне паварочвацца на добрае. Галасавала на прэзідэнцкіх выбарах за Андрэя Саннікава. Цяпер ён у турме. У турмах і яго паплечнікі. У краіне разлад.

Сустрэла родную цётку Алеся Бяляцкага, калі яго толькі арыштавалі. У гаворцы з ёй даведалася, што яна галасавала за "бацьку"...

Хіба не разлад у грамадстве, а на разладдзі нічога добрага не пабудуеш. Але запалохалі не ўсіх людзей. І не зброяй яны атрымаюць перамогу, а моцным памкненнем да Святла і Дабра.

**Валянціна ПАЖЫЛОВА,**
**жыхарка г.Светлагорска.**

ДИСКУССИЯ

# Чего не могут понять наши «рулевые»...

Приняла предложение "Народной Воли" и решила включиться в дискуссию о проблемах современной белорусской науки.

Я готова подписаться под каждым словом кандидата наук Александра Мелешко ("Народная Воля", №№189—190). Он абсолютно прав. На мой взгляд, даже осторожен в высказываниях. Ситуация значительно хуже.

Я хотела бы продолжить затронутую Александром тему, коснувшись наиболее тяжелой и практически неразрешимой проблемы белорусской науки — источника квалифицированных кадров. Их подготовка требует времени, средств и усилий, а растерять их — проще всего. Но по причинам, не зависящим от воли или желания самого главного начальника, командно-административная система неизбежно плодит роковые ошибки, которые ее в конечном счете и губят. К белорусской науке это относится в полной мере.



**Ошибка первая.** "Отцы-благодетели" всегда свято верят, что расходного человеческого материала им хватит на сто лет вперед. "Порулят" даже их внуки с правнуками. Однако послушных рабов-исполнителей, способных к тому же не только кланяться, но и что-то реально делать, катастрофически недостает даже ныне здравствующему поколению доморощенных управленцев. Основу "ударной" силы сегодняшней белорусской науки составляют пожилые люди, начиная от юных пенсионеров и заканчивая глубокими стариками. Плюс "крепостные", выпускники вузов, отрабатывающие свой срок по распределению с единственной мечтой заснуть на два года и проснуться уже в другой стране. Некоторые из них идут в аспирантуру. Покрутятся год-другой, присмотрятся, сравнят свою стипендию с зарплатой кандидата наук, имеющего всевозможные надбавки, и сбегают, осознав, что шансов вырваться из будущей гарантированной нищеты у них нет.

Формально средняя зарплата в научных учреждениях немного уступает банковской. Но это среднее мне очень напоминает обстановку больницы: наверху температурящие больные, а внизу в ледяном подвале те, кому помочь не смогли, но в среднем все здоровы.

Если существующий "вектор" развития сохранится, скоро в ученые будут брать всех желающих, способных хотя бы сидеть, только бы заполнить штатное расписание и сохранить на плаву учреждение с положенным ему пайком и устоявшимся способом его распила. Впрочем, этот процесс идет уже давно и успешно, так что фанерный велосипед еще можно считать большим достижением. Удивляюсь только, почему Михаил Мясникович все это так долго и упорно не видел. Видимо, утонул в "правильных" бумажках.

**Ошибка вторая.** Наши "рулевые" никак не могут понять, что нестандартные мозги (в хорошем смысле) — это штучный товар, дар божий, талантливый экспериментатор — это виртуоз с золотыми руками и свежими идеями. Обладателя всех перечисленных достоинств можно считать редчайшим подарком, "эксклюзивом", "вымирающим видом". Его бы беречь и лелеять, а не топтать сапожищами и не использовать как одноразовое изделие в погоне за большими и легкими деньгами для своего любимого кошелька. Такое впечатление, что если наши управленцы-ученые и интересуются психологией творчества, то только такого, где можно мгновенно разбогатеть.

**Ошибка третья вытекает из двух первых.** По-настоящему умный человек — цельная личность. Закрыв дверь лаборатории, он не превращается в дурачка, радующегося куску вареной колбасы и уголку в общаге. Он ощущает себя тем, кто он есть в действительности, у него есть нормальные человеческие потребности, амбиции, планы.

Но для системы все без исключения люди не более чем расходный материал, объект эксплуатации, порой циничной, издевательской и унизительной. В высшую касту попадают лишь те, кто родился с "нужной" фамилией или спит рядом с ней, правильно выбрав спутника жизни. В принципе, этого достаточно для движения вверх и приличной зарплаты.

Сегодняшняя реальность белорусской науки — это странный симбиоз ученых-наперсточников и за что-то благодарных им экспертов-оценщиков. Такой специфический междусобойчик, очень удобный для успешного выживания в прогнившей системе, где иметь IQ выше среднего и одновременно оставаться честным просто опасно. Число охотников зашкаливает. Александр Мелешко механизм оценки квалификации ученого предложил, пусть даже и не самый совершенный, но тем не менее достаточно объективный. Публикует цитируемый журнал статью данного автора — этот ученый и заслуживает соответствующих доплат. Нет — работай над собой, расти или ищи другое приложение своим способностям. Можно ввести доплаты за статьи в рейтинговых журналах. Один автор в статье — 150% оклада; два автора — по 80% каждому; три — по 50%, четыре — по 35% и так далее. И поверьте, приписки "левых" нужных людей под статьями прекратятся и не будут они в рабочее время трудиться в других организациях. Автор за свое имя и свою долю будет сражаться, а не вытирать слезы в уголке. И "руководители", оставшись без доплат, очень быстро разберутся в квалификации нижестоящих, да и в своей собственной тоже. А то сегодня у нас "высокими достижениями" считаются опусы, которые стыдно печатать даже в местных журналах.

На защиту диссертаций, господа, тоже извольте представить соответствующий список не из местных изданий. И без тезисов конференций.

Введут такие правила — очень быстро появится фонд экономии средств и возможность заменить допотопные приборы, которые давно уже стыдно показывать, не то что использовать. Отношение к умницам и трудягам тоже изменится, этот "расходный материал" хоть немножко станут ценить и беречь. И среднее звено, даст Бог, перестанет консультироваться исключительно "по горизонтам".

...Когда-то я выбрала дело, не слишком задумываясь, будет в моей тарелке мясо или только пустая бульба. За спиной годы бедности. Зато убогая система, лишив меня возможности что-то терять, получила жесткого оппонента.

Сейчас я заканчиваю сложную работу, выбиваю "пробку", закупоривающую на многие годы целое направление в исследованиях, отправляю все в печать и ухожу. Спасать это уродливое образование, продлевать или оправдывать его существование я не буду. Учеников после себя не оставляю. Бедность и вечное унижение не способствовали проявлению подобного альтруизма. Да и непорядочно это было бы по отношению к чужим детям без нужных связей, понимая, что их ждет впереди.

За последние полгода я предприняла не одну попытку достучаться до руководства. Возмущалась, взывала, требовала избавиться хотя бы от откровенного безобразия. Бесполезно, пустая трата сил. Система — это закон "каждому — свое", иначе не будет. Никогда.

Надеюсь, что моя статья поможет господину А.Г.Лукашенко найти ответ на заданный им вопрос. Впрочем, я не очень верю в искренность образцово-показательных порок и рассматриваю их как бесплатное разнообразие в нашей унылой безнадеге. "Своих" ведь все равно никто не тронет, а местных при необходимости можно заменить мигрантами. Кое-где ведь хуже, чем здесь.

**Наталья ШУЛЬГА,**
**старший научный сотрудник,**
**кандидат химических наук.**

РУБАМ!

## Рахманасць, якая мяжуе са здрадай

Да чарговых парламенцкіх выбараў засталося зусім мала часу. Каб волевыяўленне людзей адбылося ў адпаведнасці з дэмакратычнымі прынцыпамі, трэба тэрмінова і радыкальна мяняць заканадаўства. Улада на гэты крок не ідзе, а палітычныя партыі, грамадства па-сур'ёзнаму яе і не падштурхоўваюць. Вось, пішуць, экс-кандыдат у прэзідэнты Усс стварае ініцыятыўную групу па зборы подпісаў за правядзенне на гэты конт рэферэндуму. Адчуваю, што пры нашай рахманасці надыдуць выбары, а праблема так і не будзе вырашана. Абыякавасць да лёсу парламенцкай кампаніі — гэта здрада Беларусі, здрада сабе і сваім дзецям.

Недзе прачытаў, што былая дэпутатка Вольга Абрамава прапаноўвае падчас галасавання перакрэсліваць бюлетэні з двух бакоў. Лічу, што спадарыня Абрамава займаецца звычайным самапіярам. Што, яна не ведае, як пасупалі з вынікамі галасавання на тых ці іншых участках, калі яны не задавальнялі ўлады? Ад гэтага, упэўнены, не адмовяцца і на будучых выбарах. Таму я лічу, што разлічваць на справядлівыя выбары можна толькі пры адной умове: калі будзе шчыльны кантроль з боку грамадскасці, прыхільнікаў кандыдатаў, палітычных партый на ўсіх этапах кампаніі і асабліва падчас падліку галасоў. Не зможам гэтага дабіцца — зноў у нас будзе, як кажуць, кішэнны парламент.

Я не згодны з тымі, хто лічыць, што трэба прасіць еўрапейцаў, каб яны больш ціснулі на Лукашэнку, і тады, маўляў, ён пойдзе на дэмакратызацыю. Па-першае, у іх свае інтарэсы, і не заўсёды яны супадаюць з нашымі, а па-другое, ніхто не навядзе парадак у нашай хаце, калі мы не навядзём яго самі.

**Павел Іванавіч СМОЛАЎ,**
**інжынер.**

ДОБРЫЕ ЛЮДИ

## Спасем друг друга!

Уважаемая редакция "Народной Воли"!

Являюсь вашим постоянным читателем, поэтому решил обратиться именно к вам. Думаю, что только ваша газета пишет правду, о которой молчат государственные СМИ. Я не состою ни в какой политической партии, не собираюсь действующую власть "клеймить позором" ради какой-то выгоды. Но все-таки хочу сказать о том, что теперешние чиновники плевать хотели на народ. Они обесценили людской труд (современная оплата труда давно не соответствует теперешним ценам). Они ввели непомерные штрафы за всякую ерунду (хотя общеизвестно, что штрафная санкция не должна носить кабальный характер). Скажите мне, пожалуйста, где взять, например, деревенскому браконьеру-рыбаку 10.000.000 рублей на штраф, если у него зарплата 800.000 рублей? Неужели официальные лица этого не понимают?

Человеческая жизнь тоже обесценена нашей властью. Я это заявляю как донор крови. Сейчас за 475 граммов крови донору платят 70.250 белорусских рублей. Кто-то скажет, что, мол, доноры торгуют своей кровью, как каким-то товаром. Чушь! Мне кажется, чтобы восстановиться, донору после сдачи крови нужно купить продуктов питания на тысяч этак двести. Поэтому никакой корысти тут я не вижу.

Что касается меня, то я буду сдавать кровь и дальше, так как считаю: человеческая жизнь — самое ценное, что есть в нашем обществе. Больницы и родильные дома постоянно нуждаются в крови. Да, государство это не ценит по достоинству. Но люди ценят.

Хочу через газету призвать всех здоровых людей приходить в пункты переливания крови. Если вы не болели желтухой и другими инфекционными заболеваниями, то вас там с радостью примут. Лозунги о том, что донор — лучший друг больного, это не восторженная чушь, а самая настоящая правда. Доноров очень не хватает, поэтому врачи вынуждены привлекать своих же медработников. Каждый человек, если он здоров, может помочь своему ближнему.

Я крепкий и здоровый мужчина, мне почти сорок лет. В следующем году я сдам кровь в сороковой раз, и мне присвоят звание почетного донора Республики Беларусь. Возможно, дадут какие-то "смешные" льготы, но я буду и дальше помогать людям. Хочу еще раз призвать граждан вступать в ряды доноров. Возможно, где-то чья-то жизнь висит на волоске и именно ваша кровь спасет эту жизнь. Давайте оставаться людьми и не кивать на государство.

**Юрий МЯЛИК.**

*г.Речица.*

ПЫТАННЕ—АДКАЗ

## Ёлкі ад 23 тысяч

*Чула, што пачынаюць працаваць навагоднія кірмашы. Цікава, а колькі будуць каштаваць сёлета натуральныя ёлкі?*

**А.Несцер.**

*Мінскі раён.*

Сапраўды, 20 снежня ў кожным абласным і раённым цэнтрах павінны распачаць працу ёлачныя базары. Усяго па краіне будзе працаваць 600 гандлёвых кропак.

Кошт ёлак будзе залежыць ад вышыні дрэва.

Так, ёлка да 1 метра будзе каштаваць 30 тысяч рублёў. Ад 1 да 2 метраў — 39 тысяч, ад 2 да 3 метраў — 55—56 тысяч. У Мінлясгасе кажуць, што набыць ёлкі можна будзе і ў саміх лясгасах і лясніцтвах. І там навагоднія прыгажуні будуць каштаваць танней: 23 тысячы ёлкі вышынёй да 1 метра, 30 тысяч ад 1 да 2 метраў і 43 тысячы ад 2 да 3 метраў.

Самымі дарагімі будуць дрэвы вышынёй больш за 10 метраў. У лясгасах і лясніцтвах такія ёлкі будуць каштаваць 235 тысяч, а на базарах за іх прыйдзецца заплаціць 306 тысяч. Некаторыя гаспадаркі падрыхтавалі для рэалізацыі навагоднія ёлкі ў кадках. Іх кошт каля 80 тысяч за адну штуку да 1 метра вышыні.

Дарэчы, спецыялісты абяцаюць напоўніць базары не толькі прыгожымі ёлкамі, але і соснамі і нават букетамі з сасновых альбо яловых ветак па цане ад 2 да 5 тысяч рублёў.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ЧИТАТЕЛЬ—ГАЗЕТА

## Твердая рука и лагерный порядок

Во времена исторических перемен, смут, революций и перестроек диктаторы всегда стараются захватить власть, обещая народу "золотые горы", а получив ее, потом уже ни с кем не считаются. Под предлогом осуществления своих "грандиозных" планов они всячески стараются продлить свой срок пребывания у власти. По всем каналам и в печати пропаганда муссирует рассказы про "хорошую" жизнь: мол, будет еще лучше, надо только подождать, не надо ничего менять, от добра добра не ищут. Основная масса людей верит в это и не хочет ни во что вмешиваться, они готовы ждать, ведь другого выбора у них нет.

Кроме того, диктаторам нужны враги, чтобы было кем пугать народ, отвлекать его от насущных проблем и списывать на "гэтых злодзеяў" все свои неудачи и просчеты. Если нет внешних врагов, то их ищут среди своих. В основном врагами оказываются умные, рассудительные и не равнодушные к несправедливости люди, которые не боятся говорить правду, и за это часто терпят гонения, платятся своей свободой и даже жизнью. Но такова сущность диктатуры.

Плохой сценарий, но если говорить серьезно, то у нас был шанс наладить себе достойную жизнь с человеческим лицом, но, к сожалению, мы его упустили. Многие умные люди предупреждали нас об этом, когда еще была возможность выбора, но большинство, опьяненное свободой, выбрало легкий путь, поверив пустым обещаниям.

Кстати, недавно я приобрел собрание сочинений В.Быкова, изданное в 1994 году. Раньше, кроме "Альпийской баллады", я мало что знал о его творчестве. Теперь, как бы заново открывая Быкова для себя, читаю все подряд, не отрываясь, — так все интересно, живо и правдиво описывает он, особенно военное лихолетье. В шестом томе в разделе "Публіцыстыка" он много рассуждает о нашей прошлой, настоящей и будущей жизни, а в статье "Будучыня рэспублікі" за 1991 год, как раз по теме, он в беседе с Сергеем Наумчиком говорил: *"Улада цвёрдай рукі, дыктатура, пра якую марыць наменклатура і добрая частка людзей працоўных, адкіне нас не ў эпоху "класавых баёў", а ў адзіны вялікі канцлагер, дзе будзе выдатны лагерны парадак, лагернае аднадумства, лагерны тэрор. І будзе парадак — роўны і дакладны, кожны будзе жыць строга па рэгламенце — гадзіна ў гадзіну: жыць, працаваць і паміраць. Усё — строга па норме, у свой час. Пры поўнай згодзе. І ні табе мітынгаў, ні забастовак, ні нефармалаў, ні апазіцыі. Затое будзе Вялікі, Шаноўны, Усімі Любімы Павадыр — Дыктатар. Як, зрэшты, ужо і было. Мабыць, у нас інакш не бывае".*

**Валерий ГАЙСАРОВ,**
**пенсионер.**

*Минск.*

